# КРЫВІНКА

ЛІПЕНЬ
№11 (292)
2022 год

ІНФАРМАЦЫЙНА-КУЛЬТУРНАЯ ГАЗЕТА БЕШАНКОВІЦКАГА РАЁНА




МЕРКАВАННЕ РЭДАКТАРА

## ЗНІШЧЫЛІ РУБЕЖСКУЮ ШКОЛУ

**Яшчэ сем з паловай гадоў таму школа працавала. Дзеткі з Рубяжа, Ганкавічаў, Верхняга Крывіна і іншых навакольных вёсак атрымоўвалі тут веды, вучыліся ў цёплым, утульным будынку.**

По рашэнню нашай улады школа была закрытая, а двухпавярховы будынак школы плошчай звыш 2 тысяч квадратных метраў быў выстаўлены на аукцыён і прададзены за смешную цану на знос. Разам з ім былі знішчаны і ўсе камунікацыі: цеплавыя, водныя, электрычныя. Між тым, дзве суседнія вёскі Рубеж і Ганкавічы нават сёння цяжка назваць вымiраючымі.

Згодна сацыяльна-эканамічнага пашпарту, на 01.01.2022 года ў вёсцы Рубеж Бешанковіцкага раёна пражывала 82 чалавекі, у тым ліку сямёра дзяцей, 35 пенсіянераў і 40 чалавек у працаздольным узросце.

Яшчэ большая вёска Ганкавічы, якая знаходзіцца побач, за нейкі кіламетр ад Рубяжа. Тут на 01.01.2022 года пражывала 102 чалавекі, у тым ліку 23 дзіцяці, 29 пенсіянераў і 50 чалавек у працаздольным узросце.

Больш дзяцей, чым у Ганкавічах толькі ў трох вёсках Верхнякрывінскага сельскага Савета: 26 — у Семянцове, 42 у Верхнім Крывіне і 51 у Ржаўцы.

Усіх гэтых дзетак сёння звозяць аўтобусамі ў адзіную школу, якая працуе на тэрыторыі сельскага савета — Ржаўскую дзіцячы сад-базавую школу. Прычым з Верхняга Крывіна да Рубяжа на пару кіламетраў бліжэй, чым да Ржаўкі. Дакладна: ад адміністратыўнага будынка Верхнякрывінскага сельсавета да ліквідаванага будынка Рубежскай школы крыху больш сямі кіламетраў.

Нават сёння ў Рубежскай школе магло навучацца 72 дзіцяці толькі з трох вёсак: Рубяжа, Ганкавіч і Верхняга Крывіна.

Я лічу, што знішчаць такі будынак, на ўзвядзенне якога было затрачана столькі працы і адкуль выйшлі ў свет сотні вучняў, — сапраўднае злачынства.

І злачынства ў квадраце, што разам з школай знішчылі прышкольны стадыён з бегавой дарожкай.

Вось так апісваў Рубежскую школу яе апошні дырэктар Андрэй Буйлоў: "Школа ж камфортная, тыпавая, яе праектная магутнасць навучання — 420 хлопчыкаў і дзяўчынак. Ёсць свая спартзала, бібліятэка і нават музей, галоўны экспанат у якім — асколак біўня маманта. Двухпавярховік плошчай звыш 2 тысяч квадратных метраў ацяпляецца ўласнай кацельнай."

**Мае пытанні тым, хто датычны да знішчэння школы:**

Каму спатрэбілася знішчаць капітальны будынак з усімі камунікацыямі — вадаправодам, ацяпленнем, каналізацыяй, які яшчэ сем гадоў таму назад быў прыгожай сучаснай школай?

Каму ад гэтага стала лягчэй, што на месцы вялікага прыгожага будынка зараз пустка?

Каму спатрэбіўся будаўнічы матэрыял, які з'явіўся ў выніку разборкі школы?

Навошта было знішчаць бегавую дарожку на стадыёне? Няўжо ў Рубяжы больш не плануецца жыццё людзей?

Хто прымаў такое бязглуздае рашэнне? Каму ў кішэню за адну базавую перацёк будынак школы?

**Г.Станкевіч**

Партал твайго горада: http://beshankovichy.by

ДЭМАГРАФІЯ

## НАРАДЖАЛЬНАСЦЬ НЯСПЫННА ПАДАЕ

**«Зара» паведаміла, што за паў-года ў Бешанковіцкім раёне нарадзілася 45 немаўлят (25 хлопчыкаў і 20 дзяўчынак). І хаця дадзеныя пра смярот-насць у артыкуле не былі прыведзеныя, з сярэдніх статыстычных дадзеных за мінулыя гады вядома, што памірае ў нас людзей значна больш. Бешанковіцкі раён працягвае вымiраць.**

За апошнія трыццаць гадоў, як сведчыць графік з Вікіпедыі, пасёлак Бешанковічы зменшыўся як на 3 000 чалавек: з 9437 ў 1992-м годзе да прыкладна 6400 у 2022-м.

Калі ў 2018 годзе ў Бешанковіцкім раёне за год нарадзілася 114 немаўлят, то ў 2019 толькі 104.

Калі пяць — сем гадоў таму за паўгода ў нас нараджалася 60-80 дзетак, то ўжо ў 2019-м за паўгода з'явілася на свет толькі 52 немаўляці.

Дзе нарадзіліся немаўляты сёлета:

Бешанковічы — 24,
Бешанковіцкі сельсавет — 6,
Ульскі і Верхнякрывінскі сельсаветы па 4,
Астровенскі сельсавет — 3,
Вярхоўскі і Бачэйкаўскі сельсаветы —па аднаму.

Тое сведчыць, што і Бачэйкаўская, і Астровенская школы атрымаюць праз 6 гадоў па 1 — 6 вучняў у свае першыя класы. І будуць на мяжы закрыцця.

**А.Тутэйшы**

СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА

## ЧАРГОВЫ КІРАЎНІК

**Змяняюцца яны У ЗАТ «АСБ-Агра-Наватар» Бешанковіцкага раёна рэгулярна раз на паўгода, а то і часьцей. Апошняга (вядомага нам)кіраўніка прывезлі 18-га лістапада 2021 года аж з Глыбокага, дзе ён быў генеральным дырэктарам Глыбоцкага камбікормавага завода. Але ў яго тут штосьці пайшло ня так, і ён тут не прыжыўся.**

І вось з сярэдзіны ліпеня 2022 года на сайце Бешанковіцкага райвыканкама ў графе «кіраўнікі сельскагаспадарчых прадпрыемстваў» сьвеціцца новае прозвішча — Баранок Аляксандр Віктаравіч. Хаця па факце ён кіруе тут значна даўней.

Усёведаючы ГУГЛ выдаў, што Аляксандр Баранок чалавек у бешанковіцкай сельскай гаспадарцы не прышлы. Раней (у 2018 годзе) ён працаваў намеснікам начальніка аддзела вытворчасці, збыту прадукцыі і інтэнсіфікацыі сельгасвытворчасці ўпраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання Бешанковіцкага райвыканкама.

**Г.Станкевіч**

УЛАДА

## НОВАЯ ВАКАНСІЯ

**У Бешанковіцкім райвыканкаме з'явілася новая вакансія.**

Мерка-ваць аб тым можна са старонкі «Кіраўніцтва райвыканкама», дзе раптам напрыканцы ліпеня 2022 года зьнік фотаздымак і прозвішча Мікалая Сцежкіна — першага намесніка старшыні-начальніка ўпраўлення па сельскай гаспадарцы і харча-ванню Бешанковіцкага рай-выканкама.

Вытрымаў на гэтай пасадзе ў Бешанковічах Мікалай Сцежкін нешта каля года. Бо якраз 26-га ліпеня 2021 года ён быў прызначаны на гэтую пасаду.

Год таму Мікалаю Сцежкіну было 35 гадоў.

З пятага класа ён вучыўся ў Выдрэйской сярэдняй школе Лёзненскага раёна. Потым скончыў Гарадоцкі аграрна-тэхнічны каледж, Смаленскі юрыдычны інстытут. У 2016 годзе завочна скончыў Горацкую сельгасакадэмію.

За 13 гадоў ён прайшоў працоўны шлях ад тэхніка-электрыка да дырэктара лёзненскага прадпрыемства «Выдрэя» Віцебскага аддзялення Беларускай чыгункі.

Апошнія паўтара гады з лістапада 2019 года Мікалай Сцежкін працаваў першым намеснікам старшыні Талачынскага райвыканкама.

У дзень яго прызначэння на тую пасаду яму давалі наказ: "На новым працоўным месцы арганізаваць усе сельскагаспадарчыя працэсы на высокім узроўні, паколькі рэальныя эканамічныя паказчыкі некаторых арганізацый ніжэй магчымых."

Нешта падобнае маглі казаць і пры назначэнні на пасаду ў Бешанковічах. Але, верагодна, што ў Бешанковіцкім раёне арганізаваць усе працэсы на высокім узроўні не ўдалося.

Пачакаем тлумачэння райвыканкаму.

**А. Тутэйшы**

## ДУБ

*Цяпер,
калі я пішу гэтыя радкі,
мой маўклівы суразмоўца
стаіць пад маім вакном
і зьлёгку хістае гольлем,
якое магутным каркасам
абрамляе ягоны каржакаваты
стан.*

*Яму 29 гадоў.
Дуб не тутэйшы.
Яшчэ дзіцём
у жніўні 1993 года
ён зьмяніў грамадзянства —
пераехаў на ПМЖ
з далёкай Нямеччыны ў Беларусь
ў плястыкавым вядзерцы
ў багажніку маёй "Лады".*

*Тая "Лада"
сама зьмяняла
сваё грамадзянства
тройчы:
была выраблена ў СССР,
шэсьць ці сем гадоў
тэставала нямецкія аўтабаны,
пакуль ня з'ехала паміраць
у толькі што ўзьніклую,
невядомую яшчэ ў вялікім сьвеце
нейкую Беларусь.*

*Першыя гады на новай зямлі
даваліся дубу нялёгка,
асабліва нашыя суворыя
на той час яшчэ
зімы.*

*Дуб нават адмаўляўся тады
ськідаць на зіму сваё лісьцё.
Так і стаяў усю зіму сярод сьнягоў
жоўтай сьвечкай,
асьвятляючы шэры зімовы
змрок
сваім някідкім сьвятлом.*

*Колькі дзясяткаў іржавых
лістоў,
(мусіць, па звычцы)
шчасьліва перазімавалі і сёлета,
прытуліўшыся да ягоных
галінак.*

*Я пасадзіў яго поруч з кустом
бэзу,
які перавёз у Старыя Ранчыцы
са сваёй малой радзімы —
з сеньненскай вёскі Курэйшына,
дзе бэз шчасьліва жыў
пад вакном бабульчынай хацінкі,
штовясну выбухаючы прыгожымі
ліловымі сузор'ямі кветак.*

**Г.Станкевіч**
*(працяг у наступным нумары)*

ПА РОДНЫМ КРАІ

# ВЁСКА, ЯКАЯ АДНОЙ НАГОЙ ЖЫЛА Ў КАМУНІЗМЕ

**Калі б вёску Старыя Ранчыцы сёньня засыпала вулканічным попелам (як калісьці Пампеі), а гадоў праз 1000 яе адкапалі б, то археолагі напісалі б пра яе несусьвеціцу. Менавіта тое, што ў вёсцы карысталіся водаправодам, што вуліцы ў вёсцы былі асфальтаванымі і газіфікаванымі.**

Адразу скажам, што газам ў вёсцы сёньня карыстаюцца лічаныя сем'і, што кампактна пражываюць у новым пасёлку, а перспектыва газіфікацыі ўсёй вёскі — нулявая. Бо цягнцца яна на 2,5 кіламетра, і гэтае мерапрыемства людзям не па кішэні. А вось вадаправодам у Старых Ранчыцах увогуле не карысталіся ніводнага дня, хаця ён тут і ёсць. Яго праклалі ўздоўж вясковай вуліцы ў далёкім 1986-м годзе, калі тут пабудавалі меліяратыўны шлюз для арашэння палёў. Для людзей былі пабудаваныя водазаборныя калонкі, якія і сёньня чорнымі спарудамі дзе-нідзе выторкваюцца з прыдарожнага бадыльніку. А ваду ўсе бяруць з калодзежаў.

Была ў Старых Ранчыцах і асфальтаваная вуліца. Асфальт паклалі тут, як і па ўсёй Беларусі, адразу пасля выбуху на Чарнобыльскай АЭС. А потым пакрысе пакрыццё з асфальту знішчалі. Урэшце, гадоў 7 - 10 таму вялікія прамоіны на вуліцы пазасыпалі кучамі пяску, і асфальтаваная вуліца ўвогуле знікла.

Насельніцтва ў Старых Ранчыцах не старое. На 19.01.2022 года тут стала пражывала 84 чалавекі: у тым ліку 6 дзетак, 27 пенсіянераў і 51 працаздольны.

У многіх сялібах пражываюць дачнікі. Тыя сялібы звычайна дагледжаныя.

А іншыя хаціны, што засталіся без гаспадароў, развальваюцца на вачах.

Яшчэ сем гадоў таму, у 2015 годзе, у вёсцы жыло 136 чалавек.

На 01.01.2016 засталося ўжо 102 чалавекі.

На 01.01.2017 было ўжо толькі 95 чалавек.

**Славутасці і памятныя мясціны**

Адной з самых важных славутасцяў Старых Ранчыцаў з'яўляецца меліярацыйны шлюз на рацэ Крывінцы.

Шлюз быў пастаўлены ў 1986 годзе для арашэння бліжэйшых палёў. Па палях «хадзіліі» «Фрэгаты» і «Валжанкі». Але з 1991 года шлюз перасталі эксплуатаваць, а помпавую станцыю побач з ім раскралі.

Трэба сказаць, што водасховішча пры шлюзе дзясяткі гадоў было адным з улюбёных месцаў адпачынку, як мясцовых, так і жыхароў Бешанковічаў. Асабліва падабалася скакаць у ваду з самаробнага трампліна (дошкі). Але у траўні 2021 года сюды завіталі рабочыя ПМК меліярацыі, якія выцягнулі затвор шлюза і звезлі з сабой.

З таго часу месца адпачынку самаліквідавалася, бо вада стала толькі па калена глыбінёй.

Вось так неяк атрымалася, што ў маленькай вёсачцы за 3,5 км ад саміх Бешанковічаў жыццё год ад году не паляпшаецца, а наадварот.

І, як наступства, людзей тут меншае і меншае...

**Г.Станкевіч**

УКРАІНА

# РАКЕТЫ Б'ЮЦЬ ПА ГАРАДАХ

**14-га ліпеня 2022 года ў 10.45 па мясцовым часе па цэнтру ўкраінскай Вінніцы быў ажыццёўлены ракетны ўдар. Тры ракеты патрапілі ў офісны будынак, Дом афіцэраў, жылыя дамы і паркоўку каля Дома побыту «Юбілейны». Ахвярамі ракетнага ўдару па цэнтры Вінніцы сталі сама меней 20 чалавек, сярод якіх - трое дзяцей, заявіў намеснік кіраўніка офіса прэзідэнта Украіны Кірыл Цімашэнка. Называецца і колькасць параненых і пацярпелых - пакуль вядома аб 90.**

"На месцы прылётаў узнік пажар, агонь перакінуўся і на аўтастаянку. Цяпер там гарацт каля 50 аўтамабіляў. Над ліквідацыяй агню працуюць ратавальнікі", - гаворыцца ў паведамленні гарсавета.

Як сказаў прадстаўнік камандавання Паветраных сіл Украіны Юрый Ігнат, удар па Вінніцы быў здзейснены крылатымі ракетамі "Калібр". Паводле яго слоў, ракеты былі запушчаны з падводнай лодкі з акваторыі Чорнага мора, дзве ракеты былі збіты сіламі ўкраінскіх СПА.

Прэзідэнт Зяленскі назваў абстрэл Вінніцы "адкрытым тэрарыстычным актам". "Кожны дзень Расія знішчае мірнае насельніцтва, забівае ўкраінскіх дзяцей, накіроўвае ракеты па грамадзянскіх аб'ектах., дзе няма нічога ваеннага. Што гэта, калі не адкрыты тэрарыстычны акт? Нелюдзі. Краіна-забойца. Краіна-тэрарыст", - напісаў ён у сваім афіцыйным. тэлеграм-канале. Вінніца размешчана ў цэнтральнай частцы Украіны. Расейскія ўлады і прадстаўнікі ўзброеных сілаў заўсёды адмаўляюць абвінавачванні ва ўдарах па грамадзянскіх аб'ектах і сцвярджаюць, што мэтамі такіх удараў з'яўляюцца аб'екты ваеннай інфраструктуры.

**BBC**

ЗДАРОЎЕ

# ЧАРНІЦЫ

**Аб дабратворным уздзеянні чарніц на чалавечы арганізм вядома даўно. Яны паляпшаюць тонус сасудаў, умацоўваюць сэрца, рэгулюють метабалічны працэс. Але мала хто ведае, што гэтая смачная ягада не проста вітамінавы дадатак да рацыёну, якую можна ўжываць нават пры дыярэі і прастудных захворваннях.**

Нядаўна аўтарытэтнае амерыканскае медыцынскае выданне паведаміла, што калі ўжываць кубак ягад чарніцаў штодня, рызыка інфаркту і ішэмічнай хваробы істотна скароціцца.

Супрацоўнікі Універсітэта Фларыды правялі даследаванне, падчас якога прыйшлі да выхаду, што біялагічна актыўныя рэчывы, якія змяшчаюцца ў чарніцах, дабратворна ўплываюць на артэрыяльны ціск і тонус сасудаў. Таму ў прафілактычных мэтах чарніцы трэба ўжываць не толькі людзям, якія дасягнулі 40 гадоў, але і тым, хто маладзейшы. Пасля прыёму чарнічнага парашка сісталічны ціск скарачаецца на 5,1%, а дыясталічны - на 6,3%. Пры гэтым паказчыкі тонусу сасудаў павышаюцца на 6, 5%.

Акрамя ўсяго гэтага, чарніца - каштоўная крыніца аскарбінавай кіслаты. Яна валодае выяўленым антыаксідантным уздзеяннем на арганізм, умацоўвае імунітэт, паляпшае засваяльнасць жалеза. Дыетолагі акцэнтуюць увагу на тым, што чарніцы багатыя клятчаткай, якая запавольвае ўсмоктванне цукру ў кроў і нармалізуе страваванне. Таксама яна абараняе ад пашкоджанняў ДНК чалавека.

Бясспрэчная карысць чарніц для зроку. Пры рэгулярным ужыванні ягада прадухіляе ўзроставую дэгенерацыю жоўтай плямы і падтрымлівае вочы пры інтэнсіўнай працы за кампутарам. Навукова даказана тэрапеўтычная эфектыўнасць ягад пры дыярэі і інфекцыях мочавыводзячых шляхоў.

**medicina.ua**

ЗДАРЭННЕ

# САЛЯРКА ВЫЦЕКЛА

**За суткі на зямлю з трубаправода нафтабазы ў Бешанковіцкім раёне выцекла звыш 31 000 літраў дызельнага паліва.**

Згодна з матэрыяламі гэтай справы галоўны інжынер з парушэннем сваіх службовых абавязкаў не арганізаваў належную працу нафтабазы аднаго з сельгаспрадпрыемстваў раёна. У выніку гэта пацягнула несвоечасовае выяўленне негерметычнасці паліўнага трубаправода, з якога ў перыяд з 10-га па 11-га чэрвеня на ўчастак мясцовасці, які прылягае да нафтабазы, выцекла больш за 31 000 літраў дызельнага паліва.

Агульны кошт паліва, якое выцекла, перавышае 67 000 рублёў. Гэтую салярку гаспадарка купіла за кошт сродкаў бюджэтнай пазыкі.

У дачыненні да галоўнага інжынера распачалі крымінальную справу па частцы 1 артыкула 428 КК - службовая халатнасць. Для арганізацыі папярэдняга расследавання крымінальная справа перададзена ў Бешанковіцкі раённы аддзел Следчага камітэта, паведамляе прэс-служба пракуратуры Віцебскай вобласці.

**А.Тутэйшы**

СТЫХІЯ

# ЛІВЕНЬ У БЕШАНКОВІЧАХ

**У нядзелю 24-га ліпеня 2022 года а 9-й гадзіны раніцы на Бешанковічы абрынуўся моцны лівень з навальніцай. Патокі вады былі такімі магутнымі, што аўтамабілі з цяжкасцю рухаліся па вуліцах горада.**

Асабліва шмат вады было на выездзе з Бешанковічаў у бок Віцебска, крыху ніжэй скрыжавання Інтэр-нацыянальнай, Камуніс-тычнай і Чарняхоўскага.

Аўта, якія тут праязджалі, пускалі такія хвалі, што тыя перакотваліся цераз ходнік, які ўладкаваны тут з аднаго боку дарогі.

Ехаць праз гэты адцінак дарогі было і запраўду страшнавата.

**А.Тутэйшы**

РАДЫЁ

# РАДЫЁКАНАЛ «КУЛЬТУРА» РАЗНАСТАЙНЫ РЭСУРС

**Толькі на канале Культура ў Беларусі можна паслухаць радыёспектакль, старонкі рамана, дыскусію вядомых творчых асоб на культуралагічныя тэмы. А яшчэ — штодзённы дзіцячы канал «Мэры Попінс» і штодзённы праект для меламанаў «Канцэртная зала», якія транслюе канцэрты з усяго свету. І шмат чаго іншага.**

Цяпер штодня ў прамым эфіры Алег Вінярскі чытае Чынгіза Айтматава, Заслужаны артыст Беларусі Уладзімір Рагаўцоў — «Трыумфальную арку» Эрыха Марыі Рэмарка, гучаць «Развагі пра літаратуру», дзе я распавядаю пра «Сымона-музыку» Якуба Коласа, а пасля ў выкананні заслужанага артыста БССР Паўла Дубашынскага падаюцца ўрыўкі з гэтай паэмы...

За гісторыю існавання Беларускага радыё ў нас чыталі вельмі многа — маем надзвычай багатую фанатэку! Ёсць запісы галасоў многіх пісьменнікаў, і ўсе набыткі фондаў пастаянна выводзім у эфір: і Івана Чыгрынава, і Вячаслава Адамчыка, і Алеся Жука, і Віктара Карамазава...

Сёлета сумесна з музеем Янкі Купалы распрацавалі праграму «Слухаем класіка»: артысты мінскіх тэатраў выконваюць вершы песняра, а потым супрацоўнік музея распавядае гісторыю іх стварэння. Яна гучыць і ў маім праекце, які называецца «Прачулым радком». Гэтак жа чытаецца і Якуб Колас.

Пачалі агучваць Змітрака Бядулю, Максіма Багдановіча, паэтаў-шасцідзясятнікаў. То-бок сёння на канале «Культура» беларуская і сусветная літаратура займае значнае месца і гучыць штодзённа.

У нас «ажываюць» цікавыя, амаль напаўзабытыя паэты, напрыклад, Пятрусь Макаль, Сяргей Дзяргай. Іх часам не ведаюць нават тыя, хто цікавіцца літаратурай, а мы чытаем іх вершы, і людзі пераконваюцца, якая гэта высокая паэзія!

На нашых хвалях ствараецца поўная анталогія ўсёй беларускай паэзіі і прозы.

**"Звязда"**

АСОБА

# АПОШНЯЕ СЛОВА ЗЬМІЦЕРА ДАШКЕВІЧА НА СУДЗЕ

**Змітра Дашкевіча адправілі ў калонію на паўтара года. Яголая жонка Наста Дашкевіч атрымала тры гады «хатняй» хіміі. У Дашкевічаў чацьвёра непаўгадовых дзетак. Апошняе дзіця з'явілася месяц таму.**




Вырак агучылі сёння ў судзе Маскоўскага раёна. Па версіі следства, Дашкевічы бралі ўдзел у акцыі пратэсту 23 жніўня 2020 года ў Мінску.

Абодва адмовіліся даваць паказанні і прызналі толькі тое, што прысутнічалі на маршы ў той дзень.

Нагадаем, што пракурор запытваў для мужа і жонкі па паўтара года калоніі кожнаму.

У Зміцера і Насты чацвёра дзяцей.

Вось што сказаў у сваім апошнім слове Дашкевіч на судзе 13 ліпеня:

«Канечне, я разумеў, што мяне чакае, але тое, што я пачуў ад пракурора, гэта вышэй за разуменне.

Ісус даў нам уладу адпусціць грахі чалавеку ці пакараць. Які павінен быць грэх, што маці чатырох дзяцей, немаўлятка неданошанага, просяць пасадзіць у турму?

Я часам задаю сабе пытанне, што думаюць гэтыя людзі, калі просяць выносіць прысуды. Было б прасцей, каб мы бачылі перад сабой звяроў. А так яны ходзяць, усміхаюцца. Следчыя, якія пішуць гэтыя справы, просяць прабачэння, усьміхаюцца, цукеркі носяць на закрыццё справы.

Летась я стаяў, калі да мяне падышла дзяўчына са слязамі на вачах. Кажа: «Вось даведалася, што вы тут стаіце, прыйшла папрасіць прабачэння». Я не зразумеў, пра што яна гаворыць. Кажа: «Тата мой у 2004 годзе даў вам 14 сутак, памятаеце?» А я вельмі добра запомніў, таму што гэта быў адзіны выпадак, калі мне 14 сутак давалі. І вось праз 17 гадоў да мяне падышла дачка суддзі і сказала: «Прабачце». Напэўна, адзін з самых шчымлівых момантаў за гэтыя больш чым 20 гадоў. Я не пасьпеў у яе запытаць, але напэўна яна размаўляла з татам, тата думаў пра гэта ўсе гады. Даючы мне 14 сутак, разумеў, што ён робіць беззаконне. Нават 14 сутак, хоць у той момант я ня вельмі расстроіўся б і 14 гадам. А тут па паўтара мы года просім матулі з немаўляткам на руках.

Што адбываецца зараз, немагчыма зразумець.

Калі падчас арышту мяне білі пры маёй жонцы цяжарнай і казалі: «Что говорит этот человек? Пусть говорит нормально. Пусть нормально разговаривает».

Калі везлі ў машыне, гэты губопавец сказаў: «Я б цябе знішчыў толькі за тое, што ты дзяцей...» Я кажу: «Паслухай, што я раблю ня тое?» Ён: «Ну вось лісты пішаце, мы пазнаходзілі лісты, далучылі да крымінальнай справы». Знайшлі лісты, якія дзеці нашыя пісалі Марыі Калеснікавай — «Маша, мы молімся за цябе, мы любім цябе». Вось гэта злачынства — дзеці пішуць лісты палітвязням.

Калі мяне арыштоўвалі на Акрэсціна па крымінальнай справе, таксама губопаўцы смяяліся: «Жонка будзе нараджаць у турме». Я думаў, што гэта самы страшны дзень у маім жыцці, але сёння, напэўна, яшчэ страшнейшы.

Настачка, прабач мне, што я цябе ў гэта ўцягнуў. Ня мог уявіць ніколі, што такое можа з намі адбыцца.

Я ўвесь час разважаў, што я нясу гэты крыж, але я ня мог падумаць у страшным сне, што я ўскладу гэты крыж на цябе.

Даруй мне, што я так мала думаў пра цябе.

Я кахаю цябе і малюся за цябе і за нашых дзетак, за неданошанага Даніільчыка нашага (плача).

Ты святая жанчына. Я ня ведаю такіх . Даруй, што я падвёў цябе...

Я не разумею, што адбываецца. Людзі з вышэйшымі юрыдычнымі адукацыямі лічаць, што злачынца — гэта той, хто супраць гвалту выйшаў, а ня той, хто робіць гвалт. Злачынцамі яны лічаць таго, хто хоча праўды, а не таго, хто кажа «Часам не да законаў». Спадзяюся на Божую волю, хоць я не разумею, што адбываецца, скажу вам так.

У тым, што такая сістэма можа існаваць, няма сумневу. Я проста зычу вам, суддзі, пракуроры, падумаць пра душу сваю.

Я заўсёды кажу на судах (хоць гэта і бессэнсоўна): Ісус Хрыстос кажа — што ты дасі за душу сваю, калі прыйдзе дзень суду справядлівага? Што ты дасі за душу сваю, калі будзе суд сапраўдны? Вы назвалі сябе судом. Бог называе сябе судом. Імя Бога — суддзя. І я адказваю: прыйшоў суддзя і судзіў мяне справядліва за тое, што выйшаў 23-га з дзецьмі і раздаваў буклеты «Малітва за Беларусь», Бібліі раздаваў. У дзень сапраўднага суду вы нічога не дасьцё за сваю душу. І дай Бог, каб вашы дзеці праз 17 гадоў ці праз 17 месяцаў, ці вы самі прыйшлі і сказалі: «Прабач».

І, бачыць Бог, не жадаю нікому з вас зла.

Адзінае, каб вы трошку задумаліся, што вы робіце, ці ёсць нешта, што б вы не зрабілі, калі вам загадаюць, ці ёсць для вас нейкія межы"...

**www.nv-online.info**

«ВЕЛИКИЙ КАМЕНЬ»

# ГРАНДИОЗНОЕ ФИАСКО, КОТОРОЕ МАСКИРУЮТ СЛОВАМИ «ПРОЕКТ ОКУПИЛСЯ»

**Глава Администрации белорусско-китайского индустриального парка напомнил всем о существовании «Великого камня» громким заявлением: «Для страны мы уже окупили этот проект». «Салідарнасць» объясняет, почему эти слова, вероятно, далеки от истины, а также почему индустриальный парк следует считать фиаско и уже бесперспективным проектом.**

Вот что именно сказал в эфире СТВ глава Администрации белорусско-китайского индустриального парка Александр Ярошенко:

— Сами прямые бюджетные вложения нашей страны составили порядка 36 миллионов долларов. Мы получили уже больше 40 миллионов. То есть для страны мы уже окупили этот проект.

Но более детально взглянуть на общую картину позволяет другое недавнее заявление — первого заместителя гендиректора «Компании по развитию индустриального парка» Кирилла Коротеева.

Он привел следующие цифры. Со времени создания «Великого камня» инвестиции в основной капитал составили $760 млн: 36 млн — бюджетные средства Беларуси на внешнюю инфраструктуру (эту сумму и назвал Ярошенко), 60 млн — китайское финансирование объектов технико-экономической помощи, 297 млн — инвестиции «Компании по развитию парка», 367 млн вложили инвесторы-резиденты.

Обратим внимание на сумму в почти $300 млн, которые инвестировала «Компания по развитию парка». Это совместное закрытое акционерное общество, одним из крупнейших учредителей которого выступает Республика Беларусь.

Точно неизвестно, сколько денег через эту структуру власти потратили на «Великий камень», но при общих вложениях СЗАО в $300 млн, можно догадаться, что сумма немаленькая.

Но, как видим, чиновники предпочитают рассказывать лишь о $36 млн, потраченных на инфраструктуру напрямую. Выглядит это как манипуляция с целью преуменьшить гостраты на «Великий камень».

Кстати, убыток «Компании по развитию парка» по результатам 2020 года составил 54 миллиона белорусских рублей, а по результатам 2021-го — более 22 миллионов.

Почему «Великий камень» следует считать грандиозным провалом и уже бесперспективным проектом?

Для ответа на первую часть вопроса можно вспомнить, какие цели изначально ставились перед проектом. В 2012 году планировалось, что в парк потекут многомиллиардные инвестиции, здесь будут создаваться высокотехнологичные производства, а продукция будет экспортироваться на рынки Евросоюза и ЕАЭС — что озолотит Беларусь.

***Когда просчитывались результаты «Великого камня», мы полагали, что Беларусь только от экспорта продукции из этого парка получит приток валюты порядка $50 млрд. Александр Лукашенко, 2017 год***

Сравним эти планы с достигнутыми на данный момент экономическими показателями: за прошлый 2021 год предприятиями парка впервые (!) получена годовая суммарная чистая прибыль. Составила она мизерные 13,9 миллионов рублей. И это спустя десять лет после начала создания индустриального парка.

Еще в 2016 году руководитель Беларуси понял, что что-то пошло не так: «Работа {по созданию „Великого камня"} ведется из рук вон плохо».

Тогда же Владимир Семашко в должности вице-премьера обратил внимание на одну из многочисленных проблем проекта: «Парк создавался для того, чтобы туда пришли новейшие технологии, производства пятого, шестого, седьмого технологических укладов. К сожалению, те, кто туда заявился, это не совсем то, что нужно».

Здесь открывается еще один аспект провала: дело в том, что желая заполучить «новейшие технологии» (которые в целом в парк так и не пришли), белорусские власти создали для «Великого камня» льготный режим налогообложения.

В 2017 году руководство страны, пытаясь спасти проект, и вовсе расширило и без того внушительные льготы для резидентов «Великого камня»: произведенные инвесторами товары освободили от "ввозного" НДС, резидентов освободили от уплаты налога на прибыль в течение 10 лет с даты ее возникновения, а также от уплаты налога на недвижимость и земельного налога в полном размере на 50 лет. Для компаний в 10 раз снизили порог вхождения в индустриальный парк: отныне достаточно инвестиций от $ 500 тысяч.

Значительные инвестиции не потекли в «Великий камень» и после этого. А действия белорусских властей в последние два года и вовсе привели к тому, что на проекте следует поставить крест. Инвесторов теперь пытаются заманить в страну, против которой вводятся все новые и новые санкции.

Вспомнить хотя бы об ограничениях со стороны Евросоюза для белорусских самолетов и автоперевозчиков. Теперь мечта о «Великом камне» как о производственном и логистическом хабе между Востоком и Западом выглядит как никогда нереализуемой.

**Дмитрий Косач**
**gazetaby.info**

УКРАІНА

# «ВЫСОКОТОЧНЫЕ» РАКЕТЫ

**Как четырехлетняя девочка погибла в Виннице. Про обстрел мирной Винницы «высокоточными» ракетами.**



На траве перед обгоревшими руинами дома быта «Юбилейный» лежит на боку розовая детская коляска, запачканная кровью. Это была коляска маленькой девочки по имени Лиза.

Четырехлетняя Лиза — одна из троих детей, погибших в четверг в результате российского ракетного удара по центру Винницы.

Ее мать, Ирина Дмитриева, получила тяжелые ранения.

Подтверждена гибель 23 человек в результате этого удара, и восемь все еще числятся пропавшими без вести. Десятки людей по-прежнему в больнице.

Незадолго до ракетного удара Ирина выложила в интернет видео. Был чудесный солнечный день, Лиза улыбалась и толкала перед собой свою розовую коляску, они болтали с мамой о походе к логопеду.

«А мама, она все сердце вложила. Дочка была для нее смыслом жизни. Она безумно ее любила, и я просто не могу представить, какая это трагедия для семьи. Она жила этим ребенком. », - рассказала Би-би-си Валерия Король.

Валерия Король заведует центром для детей со специальными нуждами Logo-Club.

«Девочка была очень умная, очень способная. Она была очень веселая, очень любила к нам ходить. Очень радовалась — девочка очень добрая», — рассказывает Валерия.

У девочки был синдром Дауна, и в аккаунте ее мамы в «Инстаграме» осталось множество фотографий, которые она стала размещать там вскоре после рождения своей единственной дочери. Под первой из них стояла подпись: «Знакомьтесь, это маленький ангелочек Лиза».

Тем утром Лиза, как обычно, тоже пошла с мамой в LogoClub.

Клуб находится всего в квартале от Площади Победы, куда попали ракеты, и сотрудники центра при звуках сирены воздушной тревоги увели детей в укрытие. Но Лиза с мамой, как и многие другие люди, оставались на улице.

Когда началась война, они вернулись из Киева в Винницу из соображений безопасности, потому что город был далеко от линии фронта. Но сегодня в Украине уже нет безопасных мест.

Валерия рассказала мне, что Ирина совершенно не скрывала тот факт, что у девочки синдром Дауна. Она хотела, чтобы люди знали, что такие дети ничем не отличаются от нас, что они очень славные и добрые, говорит Валерия.

В результате этого ракетного удара были убиты также два мальчика.

Семилетний Максим Жарий погиб вместе с мамой Викторией. Жителей их деревни пригласили в пятницу выйти на улицу и проводить в последний путь гробы с их телами.

Про словам украинской полиции, Максим с мамой были на приеме у врача в медицинском центре на первом этаже «Юбилейного». От этой клиники не осталось ничего, кроме обгоревших стен.

Имя еще одного погибшего восьмилетнего мальчика не называется. Он ждал своего дядю в припаркованной машине и погиб, попав под шквал огня от взрыва.

На месте ракетного удара еще остаются остовы выгоревших автомобилей. Взрыв был такой силы, что одну из машин даже обернуло вокруг несущей колонны здания.

Министерство обороны России в пятницу сделало заявление по поводу этого ракетного удара, в котором ничего не говорилось о гибели детей.

Вместо этого утверждалось, что Россия использовала «высокоточные» ракеты и якобы уничтожила собравшихся на заседание украинских военных и иностранных чиновников, которые обсуждали поставки оружия.

По словам логопеда, с которым занималась Лиза, девочка была очень милой и доброй

При этом на месте удара не было ничего, что могло бы это подтвердить.

На самом деле Россия нанесла удар по Дому офицеров на Площади Победы. Однако кроме названия, оставшегося еще с советских времен, в этом доме ничего военного нет.

Там проводятся концерты, и в четверг вечером там должно было состояться очередное шоу. Когда ракеты попали в здание, один из участников группы, которая должны была выступать, настраивал звук. Он скончался в больнице от полученных ран. Другие музыканты получили ранения снаружи здания. В тот вечер в Доме офицеров должна была выступать певица Роксолана со своей группой.

По словам украинских официальных лиц, с начала развязанной Россией войны в Украине погибло 352 ребенка и еще сотни получили ранения. Владимир Зеленский назвал гибель людей в результате этого последнего обстрела актом терроризма.

Мать Лизы Ирина по-прежнему находится в больнице.

«Это ужасно. Ни дети, ни их матери не должны страдать и умирать», — говорит срывающимся голосом Валерия.

«Я не знаю, знает ли уже Ирина про Лизу, рассказала ее семья или нет. Я сама мать, и не представляю, как кому-то можно такое сообщить, я просто не знаю», — сказала она Би-би-си. - «Это ужасная трагедия».

**www.bbc.com**

ПАКАРАННЕ

# ПАЖЫЦЦЁВАЕ ДЛЯ «МЯСНІКА»

**У мінулы чацвер шведскі суд прыгаварыў былога іранскага чыноўніка да пажыццёвага зняволення за ўдзел у масавых забойствах і катаваннях палітычных зняволеных. Гэта першы выпадак у гісторыі, калі іранская службовая асоба была прыцягнута да адказнасці за масавыя зверствы супраць дысідэнтаў.**

Падлятаючы да аэрапорта Стакгольма ў лістападзе 2019 года, былы іранскі чыноўнік 61-гадовы Хамід Нуры, напэўна, нават не падазраваў, які сюрпрыз яго чакае на зямлі. Ледзь не каля трапу яго сустрэў паліцэйскі патруль з пракурорскім ордэрам на арышт.

Здзіўлены іранец даведаўся, што шведская Феміда ўзгадала некаторыя старонкі ягонай біяграфіі ў далёкіх 80-х. Тады Нуры адказваў за масавыя забойства і катаванні палітычных зняволеных у дзвюх іранскіх турмах.

Пра тыя падзеі сёння ўжо амаль забыліся. Між тым, у свой час яны былі ў топе сусветных навінаў, што нядзіўна з улікам колькасці ахвяраў і маштабаў рэпрэсій. Па падліках праваабаронцаў, за пяць месяцаў у 1988-м у Іране былі пакараныя ад 5 тысяч да 28 тысяч палітычных вязняў іранскіх турмаў.

Пераважна гэта былі актывісты «Муджахедзін-э Халк» — ваенна-палітычнай левай арганізацыі, якая выступала за звяржэнне клерыкальнага рэжыму ў Іране і практыкавала нават баявыя замахі на функцыянераў. Некаторыя з ахвяр былі забітыя з-за сваіх рэлігійных перакананняў — таму што яны былі атэістамі або мусульманамі, якія прытрымліваліся не афіцыйнай версіі ісламу.

Людзей забівалі без будзь якой судовай працэдуры, выключна на падставе тайнай інструкцыі ад Вярхоўнага лідара Ірана. У ёй аятала патрабаваў забіць усіх «адступнікаў ад ісламу», у лік якіх запісаў і апазіцыянераў. Як правіла, зняволеных грузілі ў аўтапагрузчыкі групамі па шэсць чалавек і прама ў турмах вешалі на будаўнічых кранах, якія выконвалі функцыю шыбеніц. Праз паўгадзіны трупы здымалі і вешалі новую партыю. Прычым, не шкадавалі сілавікі і жанчын.

Свет быў, мякка кажучы, у шоку. Шмат краінаў назвалі расправу злачынствам супраць чалавечнасці. Засвяціўся ў тых падзеях і Намід Нуры, які менавіта ў 88-м атрымаў мянушку «мяснік» і трапіў у поле зроку праваахоўнікаў. Нарэшце, у 2019-м яны высачылі яго ў аэрапорце Стакгольму.

Безумоўна, у справу тут жа ўмяшаліся іранскія дыпламаты. Прадстаўнік іранскага пасольства ў Швецыі прыбыў у аэрапорт і, спасылаючыся на нейкія міжнародныя пакты, паспрабаваў вызваліць суайчынніка. Але тут высветлілася, што шведскае заканадаўства змяшчае цікавы пункт. У адпаведнасці з ім, мясцовыя суды могуць судзіць як грамадзян Швецыі, так і іншых грамадзян за злачынствы супраць міжнароднага права, учыненыя ў тым ліку за мяжой. Такім чынам, арышт Нуры не супярэчыў шведскаму закону.

Хутка стартаваў і судовы працэс, на якім бок абароны спрабаваў прадставіць падазраванага як звычайнага сціплага чалавека, які ў сілу абставінаў, без асаблівага жадання быў вымушаны выконваць злачынныя загады. У сваю чаргу абвінавачванне абапіралася на сведчанні тых, хто выжыў у крывавай лазні 1988-га. Некаторым з іх нават пашчасціла бегчы з Ірану і атрымаць прытулак у Швецыі. Па іх словах, Нуры прымаў актыўны ўдзел у пакараннях — асабіста заходзіў у камеры і агучваў спісы вязняў, якіх тут жа выводзілі на экзекуцыю.

Нельга прайсці міма аднаго кур'ёзнага моманту падчас працэсу. Адвакаты Нуры спрабавалі давесці, што арышт іх кліента — гэта асабістая помста нейкіх іранскіх апазіцыянераў, якія сфабрыкавалі справу. Аднак аказалася, што «мясніка», што называецца, здаў яго былы зяць. Па нейкіх прыватных прычынах ён меў зуб на цесця і напярэдадні яго ад'езду ў Швецыю праінфармаваў аб гэтым лонданскіх юрыстаў-праваабаронцаў. Тыя перадалі інфармацыю ў шведскі МУС.

Так ці інакш, 14 ліпеня Акруговы суд Стакгольму пастанавіў, што Хамід Нуры, «сумесна і ў змове з іншымі ўдзельнічаў у пакараннях, якія можна разглядаць як сур'ёзнае злачынства супраць міжнароднага права». Дзеянні Нуры дазваляюць асудзіць яго на пажыццёвае турэмнае зняволенне.

Прысуд быў сустрэты пад апладысменты сотняў іранскіх палітэмігрантаў, якія сабраліся ля будынку суда. Сярод іх былі, дарэчы, і тыя, якія правялі ў турмах на радзіме больш за дзесяць гадоў. Зрэшты, некаторым хацелася б, каб прысудам Нуры справа не абмежавалася. Нацыянальная рада супраціву Ірана — апазіцыйная кааліцыя ў дыяспары, заявіла, што «правасуддзе пераможа», калі ўсе вышэйшыя службовыя асобы паўстануць перад судом.

Трэба прызнаць, што справа Нуры яшчэ не скончаная. Судзячы па ўсім, Тэгеран вырашыў не абмежавацца нотамі пратэсту і абраў тактыку гандлю людзьмі. Незадоўга да заканчэння судовага працэсу іранскія СМІ паведамілі, што нейкі шведска-іранскі даследчык асуджаны на смяротнае пакаранне па абвінавачванні ў шпіянажы на карысць Ізраіля. Прыблізна ў той жа час стала вядома, што ў Іране затрыманы шведскі турыст. Пачакаем рэакцыі Стакгольму.

**Сяргей Варончык**
**novychas.online**

**Заснавальнік і рэдактар:** Станкевіч Георгій Мікалаевіч

**Адрас рэдакцыі:** Бешанковіцкі раён, в. Старыя Ранчыцы, e-mail: stankevich62@gmail.com тэл. 60237, маб. +375292184739 Газета выдаецца з сакавіка 2005г.

**Падпісана да друку 28.07.2022 у 18.45** Наклад: 290 асобнікаў. Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Друкуецца на ўласным абсталяванні. Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.